


*Не пакідайце ж мовы нашай беларускай,*
*каб не ўмёрлі!* ***Францішак БАГУШЭВІЧ***

# Наша слова

№ 27(37) • 21—27 ЖНІЎНЯ 1991 г. • Штотыднёвік Таварыства беларускай мовы імя Францішка Скарыны
Кошт 10 кап. (па падпісцы — 5 кап.)

## Поступ тыдня

У РЭСПУБЛІЦЫ шырока абмяркоўваюцца Заява савецкага кіраўніцтва, падпісаная Г. Янаевым, В. Паўлавым, А. Бакланавым, указ віцэ-прэзідэнта СССР, Зварот да савецкага народа Дзяржаўнага камітэта па надзвычайнаму становішчу ў СССР і іншыя важныя дакументы. Звяртае на сябе ўвагу заява віцэ-прэзідэнта СССР Г. І. Янаева аб тым, што прынятыя Дзяржкамітэтам па надзвычайнаму становішчу ў СССР строгія меры былі папярэдне ўзгоднены з прадстаўнікамі саюзных рэспублік. Як перадае цэнтральнае тэлебачанне і радыё, кіраўнікі большасці саюзных рэспублік выступілі перад насельніцтвам з нагоды апошніх падзей у краіне.

Урад незалежнай рэспублікі Беларусі захоўвае маўчанне.

* * *

У СУВЯЗІ з падпісаннем Саюзнага дагавора, якое намячалася на 20 жніўня, управа Сойму БНФ «Адраджэнне» выступіла з заявай. У ёй выказаны рашучы пратэст супраць «закулісных інтрыг кіраўніцтва рэспублікі вакол Саюзнага дагавора» і патрабуецца адкласці падпісанне яго да прыняцця новай Канстытуцыі Беларусі. Не падтрымаў праекта дагавора і старшыня Вярхоўнага Савета СССР А. Лук'янаў па той прычыне, што там не ў поўнай меры адлюстраваны інтарэсы Цэнтра. А Дзяржаўны камітэт па надзвычайнаму становішчу ў СССР паабяцаў правесці шырокае ўсенароднае абмеркаванне гэтага спрэчнага нова-агароўскага праекта.

* * *

КАБІНЕТ Міністраў краіны прыняў пастанову дзеля ажыццяўлення дадатковых мер па змякчэнню ў Беларусі вынікаў аварыі на Чарнобыльскай АЭС. У ёй прадугледжана дадаткова выдзеліць для рэспублікі швейныя і трыкатажныя вырабы, мэблю, посуд, харчовыя рэсурсы, намечаны шэраг іншых мерапрыемстваў. Што ж, усё гэта важныя, патрэбныя захады саюзнага кіраўніцтва. Шкада толькі, што чакаць іх жыхарам забруджаных раёнаў давялося вельмі доўга.

* * *

КАЛЯ пяцідзесяці жанчын акружылі Мікалая Разумава, справа якога разглядалася ў Магілёўскім абласным судзе, і вывелі яго з храма правасуддзя. Так старшыня аршанскага стачкома зноў ухіліўся ад разгляду яго справы па абвінавачванню ў арганізацыі несанкцыяваных мітынгаў і блакіравання буйнога чыгуначнага вузла. Не дапусцілі рабочыя прадстаўнікоў улады таксама і на тэрыторыю завода пасля таго, як суд прыняў рашэнне ў прымусовым парадку даставіць М. Разумава на судовае пасяджэнне. Дабіваецца ж рабочы лідэр, каб яго справу разглядаў беспартыйны суддзя, а падзеі ў Оршы расследавала міжнародная камісія.



У Мінску пабывала Рэбека Мэтлак, жонка пасла ЗША ў СССР, які заканчвае сваю місію ў нашай краіне. Яна перадала дзіцячаму аддзяленню навукова-даследчага інстытута Анкалогіі і медыцынскай радыялогіі Міністэрства аховы здароўя БССР лякарствы на суму 10 тысяч долараў. Антыбіётыкі «Сурфакс» былі закуплены на ахвяраванні жыхароў штата Нью-Джэрсі.

На здымку: Рэбека Мэтлак перадае лякарствы загадчыку дзіцячага анкалагічнага аддзялення НДІ Рэйману Садыкавічу Ісмаіл-Задэ. Фота У. ШУБЫ (БЕЛТА).

**Дзе ўзяць смелых тэлежурналістаў?** *Стар. 2*

***Беларусь вачамі замежжа*** *Стар. 4*

**Па бетонных праспектах** *Стар. 4*

*У наступным годзе*

## Размоўнік ветлівага госця

**Здаўна існуе народная загадка, якую звычайна з выхаваўчымі мэтамі задавалі дзецям.** Але, як сведчыць вопыт, яе варта іншым разам напамінаць і дарослым: «Што нічога не каштуе, але цэніцца дорага?— Ветлівасць!»

Ветлівасць выказваецца паводзінамі, але і словам. Уявіце, што Вы ў гасцях. Вядома, Вы пастараецеся сябе паводзіць так, як тое прынята ў гаспадароў. А яшчэ Вы прынесяце падарунак— няхай самы сімвалічны: некалькі кветак, нейкую самаробку ці цукеркі (у старыя часы дарылі бохан уласнага хлеба ці нізку сушаных грыбоў).

А калі Вы трапілі за мяжу? Там ці не самым прыемным падарункам для гаспадара стануць словы прывітання на ягонай роднай мове. Госцю ж тое будзе каштаваць усяго некалькі вячэрніх гадзін зусім няцяжкай і хутчэй цікавай працы. Якую, дарэчы, можна зрабіць займальнай для ўсёй сям'і. Кожнаму пад сілу запомніць невялікі набор слоў і выразаў на іншай мове — прывітальных і развітальных, падзякі, а таксама такіх, якія заключаюць у сабе некалькі простых, але неабходных бытавых пытанняў. Ну, а для некага гэта, магчыма, стане пачаткам і далейшага грунтоўнага вывучэння замежнай мовы.

У наступным годзе, шаноўныя чытачы, мы хочам прапанаваць Вам такі невялічкі Слоўнік-размоўнік для магчымага гасцявання ў Англіі, (а таксама ў ЗША, англамоўнай Канадзе і Аўстраліі), Германіі, Францыі і... самай блізкай (у тым ліку па гістарычнаму лёсу) нашай суседкі — Літве-Летуве.

Курсы будуць весці ў асноўным спецыялісты, для якіх даная мова — родная.

А для пачатку — словы прывітання (па-беларуску, затым ў перакладзе на ўказаную замежную мову, а на заканчэнне — іх транскрыпцыя, гэта значыць напісанне так, як яны вымаўляюцца).

Добры дзень (Добрага здароўя)!
**Па-англійску:** How *do you do*? (Hallo!) Хáу ду ю дý? (Хэлóу!) Гуд áфтануун.
**Па-нямецку:** Guten Tag! Гутэн таг!
**Па-французску:** Bonjour! Бонжýр!
Па-літоўску: Sveiki! Свейкі Лáбас дзіена!

### *Рэха*

**БЭНЭЭФАЎЦЫ Ў ЦК КПБ**

Рускамоўная газета «Славянские ведомости» (выдаецца невядома кім, але па ўсім бачна мае добрыя друкарскія магчымасці), якая спецыялізуецца на адмысловай, нават, так бы мовіць, спецыфічнай інфармацыі, сцвярджае, што гэта так. Таму яна ў сваім чарговым нумары выкрывае не толькі радаслоўную арганізатара і натхніцеля бальшавікоў і пралетарыяў усіх краін У. Леніна, але і... ЦК КПБ. «Сёння ўжо ні для каго не сакрэт, — піша газета ў рэдакцыйным каментарыі, — што большасць (!)) яго (ЦК КПБ — рэд.) работнікаў тайна ці яўна стаяць за БНФ...» (СВ, № 4, 91).

***Апошнім часам у рэдакцыю прыходзіць шмат лістоў, у якіх чытачы скардзяцца на тое, што не могуць падпісацца на «Наша слова», паколькі яно не ўключана ў каталог падпісных выданняў 1992 года. Наш карэспандэнт звярнуўся за тлумачэннямі да кіраўніка дагаворна-прававой групы аб'яднання Белсаюздрук М. А. Дубоўскага. Мікалай Аляксандравіч запэўніў:*** «Наша слова» ***ўключана ўагульнасаюзны каталог, яго індэкс 63865, кошт 5 руб. 28 кап.***

***Падпіска на газету прымаецца ў любым аддзяленні Саюздруку. На «Наша слова» можна падпісацца таксама і ў кожным паштовым аддзяленні сувязі.***

Ф. СП-1

Министерство связи СССР
„Союзпечать"

АБОНЕМЕНТ на газету/журнал 63865 (индекс издания)

Наша слова — Количество комплектов:

на 19____ год по месяцам:

| 1 | 2 | 3 | 4 | 5 | 6 | 7 | 8 | 9 | 10 | 11 | 12 |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | | | | | | | | | | | |

Куда ____ (почтовый индекс) ____ (адрес)

Кому ____ (фамилия, инициалы)

ДОСТАВОЧНАЯ КАРТОЧКА

ПВ | место | литер | на газету/журнал 63865 (индекс издания)

Наша слова

| Стоимость | подписки | ____ руб. ____ коп. | Количество комплектов |
|---|---|---|---|
| | переадресовки | ____ руб. ____ коп. | |

на 19____ год по месяцам:

| 1 | 2 | 3 | 4 | 5 | 6 | 7 | 8 | 9 | 10 | 11 | 12 |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | | | | | | | | | | | |

Куда ____ (почтовый индекс) ____ (адрес)

Кому ____ (фамилия, инициалы)

